РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 39 (7852) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 24 мая 2000 г. Цана 25 руб.

## ХУТКА ПАЧЫНАЦЬ СЕНАКОС...

У райвыканкаме 22 мая 2000 года адбылася аператыўная нарада з удзелам кіраўнікоў калгасаў, прадпрыемстваў, арганізацый, старшынь сельскіх Саветаў, работнікаў раённага выканаўчага камітэта, упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання. Адкрываючы нараду, старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў адзначыў, што сёлета наш раён першым у вобласці завяршыў сяўбу збожжавых і іншых культур згодна з планам. Ён шчыра падзякаваў кіраўнікам гаспадарак, абслугоўваючых і шэфствуючых калектываў за плённую працу, цеснае супрацоўніцтва, аказаную ўсебаковую дапамогу горада сялу. Створана надзрнная аснова будучага ўраджаю, і ёсць надзея, што засеяныя палі дадуць належную аддачу. Лепшыя арганізатары і выканаўцы, шэфы будуць матэрыяльна заахвочаны.

У той жа час, на палях, кармавых угоддзях трэба яшчэ нямала чаго зрабіць. Перш за ўсё, — падкарміць пасевы, травы на сенажацях і пашы. Азотныя мінеральныя ўгнаенні для гэтага ёсць. Неабходна, каб тэхніка зараз працавала кожны дзень, з усходу да захаду сонца, на ўнясенні тукаў.

Важнейшая наступная, пасля пасяўной, сельскагаспадарчая кампанія —нарыхтоўка кармоў для жывёлы на будучы стойлавы перыяд. 25 мая ў раёне павінна быць разгорнута масавая ўборка траў. Дні, якія засталіся да пачатку "зялёнага жніва", трэба выкарыстаць для завяршэння рамонту кормаўборачных машын і прылад. Не ўсе яны яшчэ поўнасцю гатовы да работы.

Безумоўна, асноўная адказнасць за вынікі корманарыхтоўкі кладзецца на калгасы. Але ж, як падкрэслівалася, актыўны ўдзел у ёй павінны прыняць усе прадпрыемствы, арганізацыі, установы. Канкрэтныя заданні па нарыхтоўцы сена і іншых кармоў калектывам будуць даведзены. Цяпер жа была выказана просьба да кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый аказаць гаспадаркам магчымую фінансавую дапамогу для выканання рамонтных работ, набыцця неабходных запчастак, вузлоў і агрэгатаў. Старшыня райвыканкама выказаў спадзяванне, што і на гэты раз, як і ў пасяўную, горад падтрымае вяскоўцаў, паміж органамі ўлады і кіравання і гаспадарнікамі будзе праяўлена ўзаемаразуменне. Трэба зрабіць усё для таго, каб будучая зімоўка не была падобна на паўгалодную мінулую і рацыёны жывёлы ўрэшце задавальнялі яе. Для гэтага і варта прыкласці агульныя намаганні.

На нарадзе закраналіся і пытанні арганізацыі пашавага ўтрымання малочных, іншых статкаў, вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі. Раён на той дзень яшчэ не выйшаў па надоях малака ад каровы на мінулагодні ўзровень. Хаця ўжо разрыў амаль поўнасцю скараціўся. Цягнуць назад малочную вытворчасць некалькі гаспадарак. Не ўсюды арганізавана кругласутачная пасьба і трохразовае даенне кароў. У некаторых калгасах яшчэ не абсталяваны летнія лагеры, не прымяняюцца перасоўныя даільныя ўстаноўкі, не вядзецца як след догляд пашы.

Прапанавана разгледзець шэраг калгасаў, дзе праяўлена неарганізаванасць, на калегіі райсельгасхарчу і пакараць вінаватых.

У сваім выступленні першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Віталь Грышанаў спыніўся на некалькіх пытаннях, якія неабходна вырашаць. Па яго словах, райсельгасхарч будзе настойваць і даб'ецца стварэння ў раёне не менш пяці-шасці міжгаспадарчых атрадаў па нарыхтоўцы кармоў. Гэта павінна даць станоўчы эфект.

Сёлета калгасы атрымалі 40 новых трактароў, у тым ліку 34 па чарнобыльскай праграме. Вельмі адметная і прыемная навіна. Але ёсць праблемы выкарыстання тэхнікі. Не хапае механізатараў у калгасах. Таму важна новую дарагую вельмі тэхніку аддаць у надзейныя рукі. Пытанні замацавання трактароў за канкрэтнымі людзьмі вырашаюцца.

Яшчэ застаюцца няспраўнымі многія збожжавыя камбайны. Слаба рамантуюцца зерневыя комплексы. Ёсць пагроза, што вырашчаны ўраджай не будзе своечасова ўбраны, а намалочанае зерне гаспадаркі не змогуць хутка дапрацаваць і захаваць. Абстаноўка патрабуе, каб кіраўнікі і спецыялісты неадкладна заняліся падрыхтоўкай уборачнай тэхнікі і збожжавай гаспадаркі.

Вядома, як часта ламаецца тэхніка з-за таго, што на палях ляжаць камяні. Іх нямала на землях калгасаў. Дык лепш затраціць нейкія рублі, сабраць камяні, чым аддаць мільёны на набыццё сапсаваных вузлоў і машын.

Хранічнай становіцца ў некаторых гаспадарках праблема нерэгулярнай выплаты зарплаты. Са спазненнем яе выдаюць людзям у калгасах імя Калініна, "Кранштат", "Праўда", "Смолькі", "Бароньві", "Забычанне". Час кіраўнікам іх зразумець, што гэта падрывае працоўную дысцыпліну калгаснікаў, і прыняць адпаведныя меры, праявіць клопат аб працаўніках. Начальнік райсельгасхарчу паведаміў, што ў бліжэйшыя дні адбудзецца калегія. Паколькі кіраўнікі калгасаў недастаткова працуюць над вырашэннем пытанняў малочнай вытворчасці, некаторыя з іх будуць заслуханы на пасяджэнні і панясуць заслужанае пакаранне.

Удзельнікі нарады слухалі тлумачэнні старшынь калгасаў "Кранштат", "Праўда", "Новае жыццё", "Парыжская камуна", "Бароньві", "Дуброва", "Забычанне" ў сувязі з тым, што тыя не забяспечылі прыросту надояў малака ў параўнанні з мінулагоднімі паказчыкамі. М. Р. Барысаў даў ім кароткі тэрмін для выпраўлення становішча. Ён патрабаваў ад раённых служб, спецыялістаў райсельгасхарчу правераць у калгасах арганізацыю пашавага ўтрымання жывёлы, работу па павелічэнню вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі, даць аб'ектыўны матэрыял райсельгасхарчу для разгляду і пэўных вывадаў.

Старшыні сельскіх Саветаў былі папярэджаны аб адказнасці за недастатковую арганізацыю закупу малака ў насельніцтва і абавязаны палепшыць яго збор.

## Парадак у горадзе і на сяле...

У раёне пабудаваны пасёлкі для перасяленцаў, пацярпелых з-за чарнобыльскай аварыі. Вось ужо колькі гадоў тут жывуць людзі. Дзяржава затраціла вялікія сродкі, каб стварыць ім нармальныя бытавыя, сацыяльныя ўмовы. Таму вельмі важна берагчы збудаванае, падтрымліваць у пасёлках парадак, весці добраўпарадкаванне.

Аднак праведзеныя праверкі выявілі абыякавасць і бесклапотнасць многіх жыхароў пасёлкаў, і апошнія прыходзяць у запусценне. Каб спыніць безгаспадарчасць, у кабінет старшыні райвыканкама былі запрошаны прадстаўнікі сельскіх Саветаў, раённых служб, аддзела ўнутраных спраў, адказныя работнікі.

Намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Чэпікаў заўважыў, што пытанне ўвогуле не новае. Уборкай варта займацца пастаянна, чаго не назіраецца. Таму прадстаўнікам органаў улады, работнікам РАУС неабходна абысці дамы ў пасёлках, указаць людзям на недаробкі і патрабаваць іх ухілення.

Не выключэнне і горад, усе вёскі. Старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык прапанаваў сельскім Саветам, адміністрацыйным камісіям, дэпутатам актыўна ўключыцца ў работу па азеляненню, добраўпарадкаванню і ўборцы населеных пунктаў. Вуліцы, тэрыторыі райцэнтра замацаваны за прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі. Надышоў час спытаць у вінаватых за іх утрыманне, стан.

Па словах дырэктара лясгаса Васіля Цярэшчанкі, навакольны лес, асабліва каля чыгуначнай станцыі Камунары, захламлены. Гараджане адпачываюць на ўлонні прыроды, часам жартуюць з агнём. Лясгас не паспявае патушыць адзін пажар, як узнікае другі. Лепш было б, каб людзі зараз зусім не наведвалі лес, не раскладвалі кастроў, не пакідалі непатушаных запалкаў.

Як сказаў загадчык жыллёва-камунальнага аддзела райвыканкама Іван Багданаў, зніжана патрабавальнасць да ўладальнікаў дамоў, кватэр, кіраўнікоў працоўных калектываў. Участковыя інспектары аслабілі кантроль. Не падаюцца пратаколы ў адміністрацыйную камісію.

Вынікі гэтай нарады падвёў старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў. Ён папярэдзіў работнікаў міліцыі, кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, структур улады аб адказнасці за ўтрыманне горада, пасёлкаў і вёсак. Яны абавязаны дакладваць кожны тыдзень аб выкананай рабоце.

Ул. інф.

### ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА

**Праязджае зараз Сяргей Васільевіч Дзюндзін міма палёў, дзе яму даводзілася ў час веснавой сяўбы рыхтаваць глебу пад яравыя культуры, і радуе вока зяленіна будучай збажыны. Нямала, вядома, залежыла і ад яго, бо С. В. Дзюндзін не толькі араў глебу, а і прыкатваў палі на АКШ-7,2. На сваім трактары К-701 старанны механізатар працаваў вясну на будучы ўраджай. А цяпер Сяргей Васільевіч займаецца падрыхтоўкай сваёй тэхнікі да не менш адказнай справы – нарыхтоўкі кармоў для грамадскага статку. Як і ў мінулыя гады, ён будзе займацца дастаўкай сянажнай масы.**

**Наогул, цяжка пералічыць, чым займаецца вопытны механізатар калгаса "Прагрэс" С. В. Дзюндзін. Яму давяраюць адказныя ўчасткі работы і заўсёды Сяргей Васільевіч пасняхова з ёй спраўляецца. За гэта яго паважаюць у калектыве. Словы ўдзячнасці за працу часта даводзіцца чуць у свой адрас ад старшыні калгаса. Добрая слава пра С. В. Дзюндзіна прыйшла ў калгас "Прагрэс" яшчэ з Саматэвіч, адкуль Сяргей Васільевіч пераехаў у пачатку 90-х гадоў.**



**На здымку: С. В. ДЗЮНДЗІН.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

### ЗВЕСТКІ
***аб надоях малака ў гаспадарках раёна па стану на 22 мая гг.***

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – надоена ў 2000 годзе ад каровы, трэцяя – атрымана ў 1999 г. (кг).*

| | | |
|---|---|---|
| "Пар. камуна" | 10,1 | 12,0 |
| "Новае жыццё" | 9,9 | 10,5 |
| "Новы быт" | 9,3 | 8,8 |
| "Дуброва" | 8,8 | 8,9 |
| "Прагрэс" | 8,7 | 8,6 |
| "Бароньві" | 8,1 | 9,3 |
| "Радзіма" | 8,0 | 8,2 |
| "Лен. шлях" | 8,0 | 8,0 |
| імя Калініна | 7,6 | 6,6 |
| "Смолькі" | 7,5 | 7,0 |
| "Праўда" | 6,6 | 7,0 |
| "Расія" | 6,5 | 5,6 |
| імя К. Маркса | 6,3 | 6,3 |
| "Кранштат" | 5,2 | 5,3 |
| "Забычанне" | 5,1 | 6,8 |
| **ПА РАЁНУ:** | **7,70** | **7,83** |

## *Ствараецца гарадскі парк*

У райвыканкаме адбылася нарада, дзе абмеркаваны пытанні стварэння ў горадзе парка культуры і адпачынку. Удзельнічалі ў ёй кіраўнікі камунальнай службы, лясгаса, прадпрыемстваў, арганізацый, школ. Вёў нараду старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў.

Звяртаючыся да прысутных, намеснік старшыні райвыканкама па будаўніцтву Генадзь Піскуноў сказаў, што створана спецыяльная камісія, якая вядзе кантроль і аказвае дапамогу ў арганізацыі работ на аб'екце. Генеральны падрадчык – трэст № 10 "Цэментабуд". Выкарыстоўваюцца сродкі, якія паступілі ў якасці экалагічная падатку.

Магчымасці будаўніцтва парка падрадным спосабам абмежаваныя. Калі адзін трэст будзе весці яго, аб'ект невядома калі ўдасца завяршыць. Патрэбна бязвыплатная дапамога працоўных і вучнёўскіх калектываў – сіл грамадскасці.

На нарадзе вызначана, хто і ў якой колькасці пасадзіць дрэвы і будзе іх даглядаць, колькі метраў агародкі паставіць. Шырокі ўдзел прымуць работнікі прадпрыемстваў і арганізацый, школьнікі.

Уведзена пасада інжынера па азеляненню. Будзе закладзены гадавальнік, які забяспечыць парк пасадачным матэрыялам.

М. Р. Барысаў падкрэсліў, што даведзеныя заданні, аб'ёмы работ павінны быць выкананы ў вызначаны тэрмін і якасна. Вытворчаму аб'яднанню ЖКГ неабходна дабіцца, каб на месцы парка не пасвілася прыватная жывёла, не допускалася пашкоджанне дрэўцаў.

Кантроль за ходам работ на аб'екце ажыццяўляе ўпраўленне капітальнага будаўніцтва райвыканкама.

Лёсы людскія

# НІЗКІ ПАКЛОН ВАМ, РОДНЫЯ

Весела звінелі пад дугой званочкі. Не па-зімоваму шчодрае сонца рассыпала іскры свята па белым ад снегу наваколлі. Па дарозе на конях ехалі сваты з Сялецкага ў суседнюю вёску Дворацкая Буда. Жаніх — малады ляснік Карней сядзеў на першых санях. На тых, што ехалі за ім, іграў гармонік і спявалі. А на душы Карнея было і радасна, і трывожна. Трывожна, таму што сур'ёзны крок у жыцці прадстаяла зрабіць яму.

Перад вачыма за кароткае імгненне прамільгнула ранейшае жыццё. Ваеннае дзяцінства з яго нястачай і пасляваеннае, калі таксама пахваліцца не было чым. Бацька памёр рана. Успомнілася, як зімой вельмі хацелася катацца на катку, на рэчцы, а абуць не было чаго. Выскачыць басанож на лёд, пракоціцца хвіліны дзве, і хутчэй на печ адграваццца.

Але ж і сёння таксама мароз, аднак не адчуваў малады жаніх холаду. Яго саграваці светлыя пачуцці да нявесты. Карней прыслухаўся да песні, што спявалі на санях, і ўсміхнуўся. Як бы там не было, а басаногі хлапчук вырас у высокага, ладнага юнака. І дзеўкі па ім сохлі. Але ён убачыў аднойчы зграбную, кучаравую Моцю, дачку свайго калегі-лесніка, і яна запала ў яго сэрца. І вось цяпер едзе Карней да яе ў сваты. І трывога пачынае распіраць грудзі: "А калі перадумае?"

А Моця ў гэты час сядзела за прадзівам. І раптам коні са званочкамі пад дугой спыніліся каля яе хаты. Як толькі саскочыў з саней Карней, упала і кудысьці пакацілася яе сэрца. Пакаціўшыся, гэтыя два сэрцы сустрэліся. І калі маці паклікала Моцю і спытала, ці пойдзе тая за Карнея, дачка адказала ціха: "Пайду, мама..."

Так зімой і пажаніліся мае бацькі Карней Мітрафанавіч і Матруна Аляксандраўна Азаранкі. І вось ужо 45 гадоў ідуць яны разам па жыцці. Нарадзілі і выхавалі пяцёра дзяцей, зараз ужо маюць сем унукаў.

Складанасцей у жыцці хапала, але заўсёды ў доме панавалі радасць, узаемаразуменне. А яшчэ – песня. Колькі сябе памятаю, маці заўсёды спявала. Бывала, пойдзе ў лес па ягады – на ўвесь лес чуваць яе меладычны голас. Пойдзе кароў пасвіць – і тут без песні не абыходзіцца. З песняй, яна лічыла, лягчэй па жыцці ісці.

Усюды былі разам мае бацькі: і на рабоце, і ў час адпачынку, і на гулянцы. І ніколі мы, дзеці, не чулі, каб бацькі моцна сварыліся, зневажалі адзін аднаго. Ідуць разам з гулянкі і ўдваіх спяваюць на ўсю вуліцу. Дзяцей таксама расцілі, ідучы поплеч.

Асабісты прыклад, тонкае бацькоўскае пачуццё дапамаглі ўсім нам выйсці, як кажуць, у людзі. Я закончыла Магілёўскі педагагічны інстытут, працую намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце ў сваёй роднай школе. Сястра Валянціна і браты Мікалай і Віталь жывуць у Касцюковічах. Валянціна працуе тэхнічным работнікам у райвыканкаме, Мікалай – інжынер ва ўпраўленні капітальнага будаўніцтва райвыканкама, Віталь – міліцыянер раённага аддзела ўнутраных спраў. Самая малодшая з нас – Жанна -- жыве ў Пячарах, працуе настаўніцай у Шарэйкаўскай сярэдняй школе.

Любоў да бацькоў утрымала ўсіх ля роднага прычалу, ніхто далёка нікуды ехаць не захацеў, засталіся жыць і працаваць у сваім раёне. Кажуць: у сваёй хаце і вуглы дапамагаюць.

Дарагія нашы бацькі заўсёды вельмі рады, калі збіраецца дома ўся наша дружная сям'я. А гэта аж 19 чалавек. Нізкі паклон вам, родныя, ад мяне і ад усіх нас, вашых дзяцей і ўнукаў. Жывіце доўга на радасць нам.

**Любоў УРОДЗІНА,**
**в. Сялецкае.**



**На здымку:**
**Карней Мітрафанавіч і Матруна Аляксандраўна АЗАРАНКІ.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**



Пад такой назвай падрыхтавала і правяла загадчыца бібліятэкі-клуба Вера Піцянова разам з удзельнікамі фальклорнага ансамбля літаратурна-музычны вечар у Журбінскім клубе. Гучалі песні ваенный пары, вершы аб подзвігу салдацкім. Паіменна ўспомнілі вяскоўцы сваіх землякоў, тых, хто загінуў на полі бою ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і тых, хто вярнуўся дадому, аднаўляў разбураную гаспадарку, аднак не дажыў да светлага свята 55-годдзя Перамогі.

На вечар былі запрошаны і ветэраны. У іх гонар выканаы нумары мастацкай самадзейнасці. Ветэранам уручаны кветкі.

**Надзея ПРАКАПЕНКА,**
**жыхарка вёскі Журбін.**



# *Хай адпачынак будзе ў радасць*

Набліжаецца час летніх канікулаў. Большасць школьнікаў будуць знаходзіцца дома без нагляду бацькоў, настаўнікаў, увогуле, дарослых людзей. Тады часта здараецца, што дзеці наладжваюць даволі небяспечныя гульні. Гэта прыводзіць да непажаданага фіналу. У сувязі з тым, што ў нашым раёне па прычыне свавольства рабят ёсць выпадкі паражэння іх электрычным токам, хочацца папярэдзіць бацькоў, настаўнікаў, выхавацеляў, каб растлумачылі дзецям правілы бяспекі пры абыходжанні з электратокам.

Важна ведаць, што катэгарычна забараняецца ўзбірацца на апоры паветраных ліній электраперадач, разразаць кабелі, разбіваць ізалятары, лямпы вулічнага асвятлення, кідаць на правады розныя прадметы, наладжваць гульні пад правадамі высокавольтнай лініі.

Яшчэ вельмі важны момант. На лесвічных пляцоўках у жылых дамах на відных месцах размешчаны размеркавальныя шчыты. Яны прыцягваюць увагу рабят мноствам правадкоў і лічыльнікаў. Таму хочацца папярэдзіць усіх, што гэтыя "цацкі" вельмі небяспечныя і нельга адчыняць дзверы ў размеркавальных шчытоў, а таксама пранікаць у трансфарматарныя падстанцыі закрытага тыпу або ўстаноўленыя на блоках і апорах высакавольтных ліній, расчыняць дзверы размеркавальных уладкаванняў высокавольтных і нізкавольтных адсекаў падстанцый.

У апошні час прырода прыпадносіць нам сюрпрызы, у прыватнасці, у выглядзе моцнага ветру. У выніку яго падаюць на зямлю слупы, электраправады. Набліжацца да абарваных правадоў бліжэй чым 8 метраў забараняецца. Гэта вельмі небяспечна. Таму, калі вы заўважылі, што электраправады ляжаць на зямлі, або абарваліся і вісяць на дрэве, неабходна арганізаваць ахову гэтага месца, папярэджваць аб здарыўшымся праходжых і тэрмінова паведаміць па тэл.: 2-12-30 або 2-17-72.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў ад паражэння токам, трэба строга выконваць гэтыя простыя правілы. Тады адпачынак вашых дзяцей не будзе азмрочаны.

**Мікалай КАМЫШАЎ,**
**галоўны інжынер раёна электрасетак.**





***Кактус цвіце.***
***Фотаэцюд Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***



## Как избежать пожара

За четыре месяца текущего года в районе произошло 12 пожаров, ущерб от которых составил свыше 900000 рублей. Только за апрель месяц их было 6. Огнем уничтожено 22 строения в зоне жесткого радиоактивного контроля. Это в деревнях Островок, Печенеж, Горбовичи.

Зона отселения представляет собой наибольшую пожарную опасность. Как правило, во всех населенных пунктах отсутствует телефонная связь, и в них мало проживает людей, в основном инвалиды, пенсионеры, одинокие.

Скоро наступят летние каникулы у школьников. В этот период большую часть своего времени дети будут оставаться без присмотра со стороны своих родителей – играть возле дома, в лесу, купаться в реке. Одна из распространенных игр у них – это игра со спичками. Разжигают костры в лесах, возле строений, жилых домов и оставляют их не потушенными.

Огонь распространяется на большие площади. Выгорают гектары леса, лугов, возникает угроза близко расположенным деревням. А сколько при этом погибает птиц и животных! Повышается и радиоактивный фон в зоне радиоактивного загрязнения. Как показывают замеры, радиоактивный фон при сгорании сухой травы повышается в 2-3 раза. Этого можно избежать, если каждый гражданин проявит внимательность, отнесется с высокой ответственностью к сохранению государственной и личной собственности.

**Виталий ЛУКАШЕНКО,**
**инспектор инспекции госпожнадзора.**


Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ

ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43
Індэкс газеты 64045

ТЭЛЕФОНЫ: галоўны рэдактар – 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі – 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.

Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.
Газета выходзіць у сераду і суботу.

Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш
Тыраж 1661 экземпляр
Друк афсетны
Падпісана ў друк 23. 05. 2000 г. 18.00
Заказ № 39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.